# Голас Радзімы

№ 36 (2177)
6 верасня 1990 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.





Першае верасня — гэта ўрачыстасць. Букеты кветак, усмешкі на тварах дзятвы, добразычлівыя позіркі настаўнікаў, — гэта ўсё першы дзень новага навучальнага года. Менавіта такім быў ён сёлета ў школе № 130 г. Мінска. З першага верасня ўжо тры класы будуць тут вучыцца на беларускай мове. І адзін з іх 1-ы «В», якім кіруе настаўніца Яўгенія ДУДАРЧЫК (на здымку).

(Пра будні беларускай школы чытайце гутарку журналіста А. Ананіч з работнікам Міністэрства народнай адукацыі БССР Г. Пятроўскім «Ці адродзім беларускую школу!» (на стар. 3).

Фота С. КРЫЦКАГА.

**КАНТРАБАНДА**

## У КАМІТЭЦЕ ДЗЯРЖБЯСПЕКІ БССР

28 жніўня 1990 года падраздзяленне грамадскіх сувязей КДБ БССР паведаміла тэлеграфнаму агенцтву рэспублікі, што ў час таможнага агляду поезда, які прыбыў з-за рубяжа на АКПП «Брэст», у адным з вагонаў выяўлены тайнік. У ім знаходзіліся звыш шасцідзесяці газавых пісталетаў, каля сямісот патронаў да іх і некалькі дзесяткаў балончыкаў з газам нервова-паралітычнага дзеяння.

Кантрабанда становіцца ўсё больш небяспечнай, ёсць спробы перакідкі ў СССР новых відаў узбраенняў. Гэтымі днямі супрацоўнікі УКДБ БССР па Брэсцкай вобласці ва ўзаемадзеянні з таможнікамі канфіскавалі ў грамадзяніна адной з заходніх краін выбуховае рэчыва, якое, як правіла, прымяняецца ў час дыверсій. Яно не паддаецца рэнтгенаскапіі, малаўразлівае пры выяўленні, па знешняму выгляду нагадвае пластылін. А разбуральная магутнасць гэтай «цацкі» ў паўтара раза больш і вышэйшая, чым у звычайнага толу. Дарэчы, у іншаземца выяўлена таксама 15 тысяч рублёў. Каму прызначаўся небяспечны «падарунак»? Гэта высветліць следства.

**ДЭМАКРАТЫЗАЦЫЯ ГРАМАДСТВА**

## НОВАЯ ПАРТЫЯ

Выканаўчы камітэт Магілёўскага гарадскога Савета народных дэпутатаў зарэгістраваў сацыял-дэмакратычную партыю, створаную ў горадзе.

Як адзначана ў статуце, сацыял-дэмакратычная партыя ёсць грамадска-палітычная арганізацыя свабодна мыслячых грамадзян, якія згуртаваліся на прынцыпах асабістай адказнасці за лёс грамадства, на агульнапрынятых сусветнай супольнасцю дэмакратычных асновах. Сацыял-дэмакраты Магілёва, якіх налічваецца каля сарака членаў, выступаюць як партыя парламенцкага тыпу, якая будзе дабівацца большасці ў Саветах толькі шляхам дэмакратычных выбараў. Партыя адмаўляе любыя формы дыктатуры, насілля якіх бы там ні было класаў, партый альбо груп людзей над іншымі. Будзе выступаць у саюзе з усімі дэмакратычнымі сіламі.

**БУДУЕЦЦА ВАКЗАЛ**

## «ВАРОТЫ МІНСКА»

Прывакзальная плошча, над якой з пяці[illegible]тых гадоў узвышаюцца два будынкі, вядомы[illegible]к «Вароты Мінска», дапоўнена яшчэ адным — 13-павярховым. Гэта першая ластаўка чарговага расшырэння сталічнага чыгуначнага вакзала.

У комплексе вакзала рыхтуецца да здачы незвычайнае для Мінска збудаванне — канкорс [illegible]та значыць своеасаблівая зала чакання над [illegible]мі. Ён зможа адразу прыняць каля дзвюх т[illegible]ч пасажыраў. Буфеты, кіёскі, лавы — усё да паслуг тых, хто чакае цягніка.

Стары будынак вакзала, які знаходзіцца ў аварыйным стане, будзе знесены. На яго месцы вырасце сучасны вакзал аб'ёмам 160—170 тысяч кубічных метраў.

*Лічыцца, што ахова здароўя рэспублікі — не самая дрэнная ў краіне. А з вуснаў саюзнага міністра, які выступаў перад медыкамі-дэлегатамі XXVIII з'езда партыі, давялося пачуць нават такую ацэнку: у Беларусі пры тых жа фінансавых магчымасцях, пры той жа структуры дабіліся такіх вынікаў, якія іншым рэспублікам і не сніліся. Мне, шчыра кажучы, пасля такіх слоў стала не па сабе. Я ж добра ведаю, у якім крызісным стане знаходзяцца сёння некаторыя «цэхі» нашай галіны.*

*Сярод прычын хранічнай адсталасці галіны я назваў бы дзве. Першая з іх ляжыць у сферы сацыяльнай: дрэнная экалагічная сітуацыя ў рэспубліцы, нерацыянальнае і недастатковае харчаванне, непрэстыжнасць здаровага ўкладу жыцця, нездавальняючыя ўмовы працы і быту. Сёння ў Беларусі не адпавядаюць санітарным нормам рабочыя месцы звыш 200 тысяч чалавек, з іх 90 тысяч — жанчыны. Ці можам мы ў такой сітуацыі гаварыць аб здароўі нацыі? Другая група прычын — катастрафічнае становішча з забеспячэннем медыцынскай тэхнікай, інструментарыем, абсталяваннем, мэбляй, лекавымі прэпаратамі. Медыцынская прамысловасць краіны безнадзейна адстала ад стагоддзя. Рабочае месца нашага ўрача аснашчана ў дзесяць-пятнаццаць разоў горш, чым яго калегі ў развітых краінах. У многіх выпадках мы вымушаны адмаўляць хвораму ў планавым аператыўным умяшанні. І ўсё з-за таго, што хірургічнымі пальчаткамі бальніцы забяспечаны толькі на 30 працэнтаў, аднаразавымі шпрыцамі і сістэмамі для пералівання крыві — на 10, айчыннымі медыкаментамі — на 45—50 працэнтаў. Ды і айчынная сістэма падрыхтоўкі ўрачоў, сярэдняга медперсаналу не дае пакуль што спецыялістаў высокага класа. Цяпер выключаецца 10 працэнтаў студэнтаў медВНУ, і ўсё ж ад урачоў-троечнікаў збавіцца пакуль што не ўдаецца.*

*(З інтэрв'ю міністра аховы здароўя БССР В. КАЗАКОВА газеце «Звязда»).*

**НАВУКА — ВЫТВОРЧАСЦІ**



**Група навуковых супрацоўнікаў, інжынераў і канструктараў Інстытута цепла- і масаабмену АН БССР займаецца праблемай сінтэзавання ўстойлівых электра- і магнітаадчувальных вадкіх асяроддзяў, механічныя ўласцівасці якіх значна змяняюцца ў вонкавых магнітных палях у выніку структуіравання. Прамое кіраванне з дапамогай электрычных сігналаў кансістэнтнасцю матэрыялу, характарыстыкамі і напрамкам патоку дазваляе ствараць прынцыпова новыя тэхніку і тэхналогію. Напрыклад, Разанскі радыёзавод атрымлівае каля мільёна рублёў прыбытку ў год, прымяняючы новую тэхналогію мінскіх вучоных пры вырабе гучнагаварыцеляў.**

**Распрацоўкі групы дазволілі ўкараніць у вытворчасць тэхналогію высокаякаснага паліравання асферычнай оптыкі, крышталяў і вырабаў складанай формы з керамікі. У аснове тэхналогіі — выкарыстанне структуразваротнага асяроддзя, якое намагнічвае[illegible]**

**НА ЗДЫМКАХ: старшы навуковы супрацоў[illegible] [illegible]андыдат тэхналагічных навук Святлана ДЗЯМЧУ[illegible], кандыдат тэхнічных навук загадчык сектара Уладзімір КУЗЬМІН за распрацоўкай метадаў інтэнсіфікацыі цеплаабмену ў гучнагаварыцелях; магнітарэалагічная вадкасць у магнітным полі змяняе свае механічныя ўласцівасці. У шкляным кубку яна «прыліпла» да магніту.**



**ПАРАДА**

## ВІЗІТ АМЕРЫКАНСКІХ СЕНАТАРАЎ

У Гродзенскай вобласці пабывала дэлегацыя сената ЗША, у складзе якой былі Патрык Ліхі — старшыня камітэта па пытаннях сельскай гаспадаркі, харчавання і лясной гаспадаркі сената, Алан Крэнстан і Роберт Грэхам — сенатары, а таксама спецыялісты апарата камітэта.

Госці пабывалі ў калгасах «Шлях да камунізму» і «Прагрэс» Гродзенскага раёна. Ацэньваючы ўбачанае, яны парэкамендавалі нашым аграрнікам як мага хутчэй мяняць працэсы перапрацоўкі сельскагаспадарчай сыравіны. Таму што страты, якія мы нясем, не дазваляецца дапускаць нікому.

**МІЖРЭСПУБЛІКАНСКІЯ СУВЯЗІ**

## ПАДПІСАНЫ ПРАТАКОЛ

Намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР, старшыня Дзяржэканомплана рэспублікі М. Мясніковіч і першы намеснік міністра матэрыяльных рэсурсаў Латвійскай рэспублікі І. Чыркішс падпісалі пратакол намераў эканамічнага супрацоўніцтва.

Бакі, якія дагаворваюцца, вырашылі забяспечыць у бягучым годзе безумоўнае выкананне прадпрыемствамі-вытворцамі, незалежна ад іх ведамаснай падпарадкаванасці, дагавораў на пастаўку сыравіны, прадукцыі і тавараў народнага спажывання ў адпаведнасці з лімітамі і ўзнікшымі сувязямі.

Дэлегацыя Латвійскай рэспублікі і беларускі бок зацікаўлены ў стварэнні сумесных прадпрыемстваў, у тым ліку з удзелам замежных фірм. Ёсць дагаворанасць аб падтрымцы інтарэсаў партнёраў на рынках іншых рэспублік і замежных, асабліва пры правядзенні бартэрных аперацый. Агульнай мэтай дагаворных бакоў з'яўляюцца канкрэтныя меры па аздараўленню народнай гаспадаркі ва ўмовах пераходу да рынычнай эканомікі.

**ПРЭЗІДЭНЦТВА М. ГАРБАЧОВА**

# ЦЯЖАР УЛАДЫ

Формулы, па якіх ацэньваюць першыя вынікі прэзідэнцкага праўлення на Захадзе (возьмем, напрыклад, славутыя 100 дзён у ЗША), зусім непрыдатныя для СССР. І далёка не выпадкова, што 100 дзён з часу выбрання М. Гарбачова прэзідэнтам прайшлі без каментарыяў у савецкай прэсе. Не было іх і ў заходняй. І гэта натуральна, таму што як у Маскве, так і ў сталіцах заходняга свету разумеюць, што падыходзіць да прэзідэнцтва Гарбачова з тымі ж мерками, з якімі мы падыходзім да праўлення Мітэрана ці Буша, наўрад ці правамерна.

І не таму, што аб прэзідэнцтве ў нашай краіне можна сказаць, што яно афарбавана ў «сацыялістычныя» таны. Аб'явіўшы аб сваіх намерах будаваць дэмакратычную і прававую дзяржаву, Гарбачоў не лічыць неабходным нейкім асаблівым чынам ідэнтыфікаваць свой тып прэзідэнцкага кіравання.

Адрозненне прэзідэнцтва ў нас не ў ідэалагічных дэфініцыях, а ў канкрэтных умовах, у якіх прэзідэнту даводзіцца «практыкаваць» сваю ўладу. Але менавіта ў гэтых умовах ляжаць галоўныя цяжкасці.

Гарбачову дасталася вельмі цяжкая спадчына. І справа не толькі ў эканамічным крызісе і ў дэстабілізацыі спажывецкага рынку, які вельмі нервуе насельніцтва. Бадай, галоўная складанасць, з якой даводзіцца сутыкацца,—гэта крызіс узаемаадносін народа і ўлады.

Доўгія дзесяцігоддзі таталітарызму і палітычнай фальшы грунтоўна дыскрэдытавалі ўладу ў вачах народа. Недавер да яе ў краіне вялікі. Назапашваўся ён даўно. Але ў перыяд сталінізму механізмы ўлады ўсё ж дзейнічалі, абапіраючыся галоўным чынам на страх, а ў перыяд Брэжнева — на інерцыю страху.

Перабудова, дэмакратызацыя, аднаўленне грамадзянскага права зламалі гэты моцны інструмент. Новая ўлада ўпершыню за доўгія гады сутыкнулася тварам у твар з той народнай свядомасцю, сфарміраванай у эпоху, якую мы сёння называем «застоем».

Аказалася, што гэта хворая свядомасць — плён хворай эканомікі і хворай ідэалогіі. На працягу доўгіх дзесяцігоддзяў чалавек прывучаўся бачыць у дзяржаве і ў прадстаўніках улады зло і падман. І калі ў сялян адбіралі зямлю, і калі людзей гвалтам заганялі ў калгасы, і калі за працу плацілі капейкі, і калі вымушалі падпісвацца на грабежніцкія дзяржаўныя пазыкі, і калі людзей праследавалі за найменшае слоўца праўды... У выніку разбэсціліся як улада, так і народ. Улада развучылася кіраваць метадамі дэмакратыі. Народ, які адлучаны ад дэмакратыі і які прывык жыць ва ўмовах крайняй беднасці, страціў навыкі як сумленнай працы, так і грамадзянскіх паводзін.

Нашаму прэзідэнту даводзіцца праводзіць новую палітыку ва ўмовах не толькі вострага эканамічнага крызісу, але і ва ўмовах крызісу маральнага. Гэты маральны крызіс шматгранны, як былі шматгранныя і скажэнні ўлады. Ён назіраецца, па сутнасці, ва ўсіх пластах, на ўсіх узроўнях савецкага грамадства, гэта крызіс давер'я паміж уладай і народам, паміж цэнтрам і перыферыяй, паміж Масквой і рэспублікамі, паміж партыяй і Саветамі, паміж нацыямі, паміж рабочымі і інтэлігенцыяй, паміж арміяй і грамадствам. Пералік гэты можна было б, верагодна, працягнуць.

У выніку ў краіне склалася сітуацыя, пры якой нават відавочныя і мабілізаваўшыя грамадскі кансенсус меры па вываду краіны з крызісу далёка не заўсёды ўспрымаюцца, а нярэдка і адхіляюцца. А размова ж ідзе аб адхіленні не якіх-небудзь штучных «органаў», а аб мерах, якія натуральныя і даўно наспелі, напрыклад, аб арэндзе, аб узяцці ў карыстанне зямлі, аб увядзенні гаспадарчай самастойнасці для прадпрыемстваў...

Прычына адхілення ў аснове сваёй усё тая ж: недавер да ўлады. Сяляне не бяруць зямлю, таму што баяцца новага раскулачвання; дзелавыя людзі не спяшаюцца з арэндай, таму што апасаюцца, што ўрад рэквізуе грошы; кааператары не ўкладваюць прыбытак у расшырэнне справы, таму што баяцца, каб іх не абвінавацілі ў эксплуатацыі, не аб'явілі буржуазіяй і г. д.

У гэтых умовах новыя надзеі ўскладаюцца на прэзідэнта. У прыватнасці, на тое, што ён сваімі ўказамі зможа, з аднаго боку, прабіць сцяну кансерватыўнага супраціўлення рэформам, а з другога — забяспечыць гарантыі незваротнасці эканамічных свабод.

Чакаецца, што восенню паследуе цэлая серыя прэзідэнцкіх указаў, якія па задуме павінны, як лакаматыў, рушыць наперад эканамічную і палітычную рэформу. Але пры падрыхтоўцы гэтых указаў патрэбна асаблівая ўважлівасць і цвярозы разлік, каб іх не спасцігла той жа лёс, што і шматлікія пастановы ўрада і законы Вярхоўнага Савета. Трэба ўлічваць, што прэзідэнцкая ўлада ў СССР яшчэ зусім маладая, а каманда Гарбачова яшчэ не валодае метадамі рэалізацыі імпульсаў, што ідуць ад прэзідэнта.

Вячаслаў **КОСЦІКАЎ**,
**палітычны аглядальнік ІАН.**

## ГУТАРКА З АФІЦЫЙНАЙ АСОБАЙ

# ЦІ АДРОДЗІМ БЕЛАРУСКУЮ ШКОЛУ?

**Пачатак сёлетняга навучальнага года супадае са значнай падзеяй у жыцці рэспублікі. 3 верасня ўводзіцца Закон аб мовах у Беларускай ССР, у адпаведнасці з якім беларускай мове быў нададзены статус дзяржаўнай. Аб стане нашай нацыянальнай школы, што павінна адыграць значную ролю ў адраджэнні беларускай мовы, гутарка з начальнікам Галоўнага ўпраўлення агульнаадукацыйных школ Міністэрства народнай адукацыі БССР Генадзем ПЯТРОЎСКІМ.**

*— Для паступовага ўвядзення палажэння Закона ў сферу народнай адукацыі вызначаны пэўны тэрмін — 10 гадоў. За гэты час большасць агульнаадукацыйных школ будзе пераведзена на беларускую мову навучання. Якія ж першачарговыя задачы ў сістэме адукацыі рэспублікі? Што ўжо зроблена на гэтым шляху?*

— Мне б хацелася зазначыць, што пэўныя захады Міністэрства народнай адукацыі рабіла яшчэ тады, калі Закона, пра які наша сённяшняя гаворка, не існавала. Была створана міністэрская праграма па адраджэнню нацыянальнай мовы. Яна прадугледжвала стварэнне беларускамоўных класаў. І ўжо ў мінулым годзе, напрыклад, у Мінску, у сямі школах усе першыя класы набіраліся беларускамоўныя. Усяго ж па рэспубліцы ў 143 першыя класы з беларускай мовай навучання было набрана 2 919 вучняў. Заўважу, што гаворка ідзе пра рускамоўныя школы, тут не ўлічаны таксама школы ў сельскай мясцовасці, большасць з якіх — беларускія.

Па нашых папярэдніх падліках у гэтым навучальным годзе ў 485 першых беларускамоўных класах будзе займацца больш за 7 тысяч вучняў. Гэтыя лічбы зноў жа тычацца толькі школ з рускай мовай навучання. Думаю, зразумела, чаму ўвесь час я адзначаю першыя класы. Безумоўна, немагчыма раптам, адным заходам перавесці нават у адной школе ўсе адзінаццаць класаў з адной мовы на іншую, хоць і родную. На сённяшні дзень у Мінску, напрыклад, 21 нацыянальная школа.

У гэтым годзе створана першая беларуская гімназія. Гэта прэстыжная ўстанова сярэдняй адукацыі адкрылася ў невялікім горадзе Асіповічы, што ў Мінскай вобласці. Тут у працэсе навучання мова будзе выступаць як сродак для больш глыбокага вывучэння нацыянальнай культуры наогул.

*— Генадзь Мікалаевіч, як звычайна вырашаецца пытанне аб адкрыцці беларускамоўнага класа або школы: дырэктывай міністэрства зверху ці ініцыятывай насельніцтва знізу?*

— Ніякай дырэктывай справу тут не вырашыш. Сёння патрэбна вялікая арганізацыйная, растлумачальная работа сярод насельніцтва. Таму міністэрства звярнулася за дапамогай ва ўсе выканкомы мясцовых Саветаў рэспублікі праводзіць аргументаваныя тлумачэнні палажэнняў Закона аб мовах у Беларускай ССР сярод навучэнцаў і іх бацькоў. На жаль, многія бацькі не падтрымліваюць ідэю стварэння школ з беларускай мовай навучання. І гэта не дзіўна: ужо не адно пакаленне ў нас выгадавана ў духу непавагі да роднай мовы, нават нейкага сораму за яе. А закрываліся ж беларускія школы ў свой час з лёгкасцю, бяздумна. Так, ламаць, як вядома, не будаваць...

*— Цяпер пачынаецца зваротны працэс, які, напэўна, будзе значна цяжэйшым?*

— Праблемы тут на кожным кроку. Назаву хаця б некаторыя з іх. Поўнасцю забяспечаны падручнікамі толькі першыя класы, для другіх класаў іх ужо не хапае. Відавочна, што не хапае размоўнікаў, слоўнікаў, асабліва навуковых і тэрміналагічных. Агульная бяда ў сферы айчыннай адукацыі — амаль жабрацкая матэрыяльна-тэхнічная база, якая мінімум на 10—15 гадоў адстае ад сучасных запатрабаванняў. Пакуль яшчэ злабадзённая праблема настаўнікаў. Для яе вырашэння міністэрствам зроблены пэўныя захады. Уведзена, у прыватнасці, 15-працэнтная надбаўка педагогам рускамоўных навучальных устаноў, якія пачалі выкладаць на беларускай мове. Асаблівая наша ўвага — падрыхтоўка настаўніцкіх кадраў, таму ва ўсіх педагагічных вышэйшых навучальных установах рэспублікі ўступны экзамен па беларускай мове абавязковы.

Так што тыя 10 год, што адведзены нам, відавочна, будуць вельмі напружанымі.

*— Нядаўна ў рэспубліканскай газеце «Звязда» быў апублікаваны артыкул, аўтар якога пасля падрабязнага параўноўвання паралельных планаў для школ з рускай мовай навучання і для школ з беларускай мовай навучання, зрабіў наступны вывад: гэтыя планы мала чым адрозніваюцца ад планаў так званага школьнага застою [illegible] іх не прасочваецца па-сапраўднаму [illegible] сённяшняга нацыянальнага адраджэння. Ці згодны вы з такім сцвярджэннем?*

— На мой погляд, даволі рэзкае і небяспрэчнае сцвярджэнне. Па-першае, калі параўноўваць колькасць гадзін, адведзеных на вывучэнне рускай і беларускай моў, то яна аднолькавая: у беларускамоўнай школе 30 гадзін у тыдзень адведзена беларускай мове і 14 рускай, і адпаведна ў рускамоўнай школе — 30 гадзін рускай мове, 14 — беларускай. Па-другое, зазначу, што міністэрствам зацверджана каля 100 варыянтаў планаў навучання для агульнаадукацыйных школ. Цяпер кожны педагагічны калектыў мае права выбару, што было немагчыма ў гады так званага застою. Напэўна, папрок наконт неадпаведнасці духу сённяшняга нацыянальнага адраджэння ў пэўнай ступені мае падставу. Канцэпцыя нацыянальнай школы яшчэ толькі ствараецца. Гэтым заняты цэлы творчы калектыў — навукоўцы, педагогі, псіхолагі. І яна ні ў якім разе не зводзіцца толькі да мовы навучання.

І яшчэ адно. Апошнім часам усе мы добра навучыліся крытыкаваць усё і ўся, нават прыахвоціліся да гэтага. А што калі цяпер усім узяцца за справу, закасаўшы рукавы? Думаю, не застануцца ў баку ні Таварыства беларускай мовы, ні Саюз пісьменнікаў, урэшце рэшт, сродкі масавай інфармацыі.

**Інтэрв'ю ўзяла Алена АНАНІЧ.**



**Так выглядала будаўнічая пляцоўка сярэдняй школы № 195 у мікрараёне Уручча-3 10 жніўня. Відаць, да пачатку навучальнага года будаўнікі закончылі работу, і школа прыняла дзятву.**

# КРАХ «РЭАЛЬНАГА САЦЫЯЛІЗМУ», АБО НА ШЛЯХУ ДА САЦЫЯЛІЗМУ РЭАЛЬНАГА

Савецкі Саюз за лічаныя дні страціў «санітарны» кардон і выводзіць свае войскі з тэрыторыі дзяржаў-саюзнікаў. Губляе свае традыцыйныя функцыі Арганізацыя Варшаўскага Дагавору, у ёй ужо намеціліся тэндэнцыі да распаду. Так, дзяржсход Венгрыі 232 галасамі «за» пры 4, што ўстрымаліся, прыняў рэзалюцыю, у якой утрымліваецца зварот да ўраду пачаць перагаворы з прычыны выхаду краіны з АВД.

Што датычыцца эканамічных адносін партнёраў па СЭУ, дык з 1-га студзеня 1991 года СССР выходзіць з сістэмы разлікаў у пераводных рублях і пераходзіць на разлікі з краінамі Савета па сусветных цэнах у свабодна канверсуемай валюце.

Засталася ў мінулым і асобая роля міжпартыйных сувязей, якія яшчэ зусім нядаўна лічыліся асновай міжнароднага супрацоўніцтва краін «рэальнага сацыялізму».

У Еўропе ў наяўнасці знікненне адных з'яў і ўзнікненне іншых, што датычаць сучаснага і будучага кантынента. Узнікае пытанне, ці могуць такія маштабныя пераўтварэнні рэвалюцыйнага характару атрымаць адназначныя ацэнкі ў колах нашай навуковай грамадскасці, сярод насельніцтва краіны, якая заплаціла за вызваленне Еўропы ад фашызму мільёнамі чалавечых жыццяў?

Адказ, думаецца, адзін: не могуць і не атрымліваюць. Бо ў нас дзесяткі гадоў грамадскую свядомасць не без поспеху прылучалі да сталінізаванага марксізму з яго міфамі аб асобым характары адносін паміж сацыялістычнымі краінамі, аб існаванні «брацкіх форм супрацоўніцтва», аб прыярытэце інтэрнацыянальна-класавага перад нацыянальна-дэмакратычным. У рэшце рэшт была прынята наяўнасць і «сацыялістычнай садружнасці», і «сусветнай сістэмы сацыялізму».

І вось сёння крах «рэальнага сацыялізму» ставіцца ў віну вышэйшаму кіраўніцтву краіны, якое пачало перабудову. Асабліва востра гэтыя праблемы выявіліся на XXVIII з'ездзе КПСС.

Мне прадстаўляецца, што з'езд, выявіўшы на сваіх трыбунах «хто ёсць хто», выканаў сваю місію. Барацьба за ўладу і за грамадскае аблічча краіны разгорнецца цяпер паміж рэфарматарамі, якія кантралююць Саветы, і кансерватарамі, якія кантралююць дзяржаўную партыю, што захавалася.

Дзве інфармацыі да роздуму. І. Палазкоў, які ўзначаліў партыю расійскіх камуністаў, на І З'ездзе народных дэпутатаў РСФСР па найбольш вострых і прынцыповых пытаннях, а іх было шэсць, у двух выпадках галасаваў, як вядома, супраць, а ў чатырох адсутнічаў зусім. А гэтыя ж два пытанні датычыліся суверэнітэту рэспублікі і дэкрэта аб уладзе!

Інфармацыя другая. Па дадзеных міністра замежных спраў СССР Э. Шэварднадзе, толькі два апошніх дзесяцігоддзі ідэалагічнай канфрантацыі з Захадам дабавілі 700 мільярдаў рублёў да кошту ваеннага супрацьстаяння. Якая эканоміка вытрымае выдаткі амаль у чвэртку свайго бюджэту на ваенныя расходы? Не вытрымала і наша.

Парадокс: вялікія грошы, што адпускаліся арміі, так і не здолелі забяспечыць надзейныя партнёрскія адносіны з нашымі саюзнікамі, і зараз яны падвяргаюцца сур'ёзным выпрабаванням. І другі бок парадокса: разбуханне ваенна-прамысловага комплексу прывяло да сацыяльнай беднасці саму армію. Зараз 173 тысячы ваеннаслужачых не маюць кватэр, а з выхадам войск з ЧСФР і Венгрыі да іх дабавяцца яшчэ 25 тысяч. Такая горкая цана за палітыку пераважна сілавога супрацьстаяння і спробы вырашыць праблему бяспекі праз зброю.

А цяпер вернемся да XXVIII з'езда. Частка дэлегатаў шматгалосым «так» патрабавала і ад Э. Шэварднадзе, і ад А. Якаўлева адказаць на пытанне пра вінаватых у дэмантажу сацыялізму на Еўрапейскім кантыненце. Думаю, такая настойлівасць не выпадковая. Бо не сакрэт, што адзін з членаў тагачаснага саставу Палітбюро ЦК КПСС Я. Лігачоў, з якім звязваецца ахоўна-марксісцкая лінія ў партыі і дзяржаве, неаднаразова заяўляў аб сваёй нязгодзе з радыкальнымі пераменамі, што адбываліся ў краінах Усходняй Еўропы. А ў прамове на з'ездзе, адвяргаючы абвінавачанне ў кансерватызме, ён прылічыў сябе да рэалістаў і абаронцаў сапраўднага сацыялізму. Галоўны лозунг гэтай грамадскай плыні: прынцыпы вышэй за жыццё!

Вось чаму з такой настойлівасцю гучалі на з'ездзе пытанні аб адказнасці за лёс сусветнай сацыялістычнай сістэмы. Але дазвольце, што ж гэта за міжнародная рэальнасць, якая рассыпалася гэтак хутка і з такой лёгкасцю? Я думаю, што ў часткі савецкіх грамадзян, і асабліва ў апарата, ніяк не можа наступіць абуджэнне ад моцнага ідэалагічнага сну.

Гістарычныя факты пераконваюць, што за апошні час рэальны рывок у якасці жыцця зрабілі, напрыклад, Паўднёвая Карэя і Заходняя Германія, а не іншыя сацыяльныя палавіны гэтых падзеленых дзяржаў. Калі чуюцца галасы пра тое, што М. Гарбачоў і яго каманда прывялі да краху сацыялізм, дык да месца спытаць ахоўнікаў нятленных прынцыпаў: а як быць з паласой крызісаў, якія настойліва праследавалі краіны «рэальнага сацыялізму»?

Дастаткова ўспомніць чэрвеньскія падзеі 1953 года ў ГДР, рэвалюцыйныя ўзрывы ў 1956 годзе ў Венгрыі і ў 1968 годзе ў Чэхаславакіі, серыю канфліктных сітуацый у Польшчы (1956, 1968, 1970, 1976, 1980-1981 гады). А міждзяржаўныя і міжпартыйныя сваркі паміж СССР і СФРЮ, КПСС і СКЮ і адпаведна паміж Савецкім Саюзам і Кітаем, КПК і КПСС?

Як ацаніць увесь гэты далёка не поўны ланцуг драматычных падзей? Ці лічыць іх дрэнным выяўленнем правільных прынцыпаў, або ўсё-такі пара нарэшце ўсвядоміць, што, як сказаў на XXVIII з'ездзе КПСС М. Гарбачоў, «крах сацыялізму» азначае знікненне такога яго віду, які быў, па сутнасці, варыянтам сталінскай аўтарытарна-бюракратычнай сістэмы і ад якой мы самі адмовіліся.

Узнікае і яшчэ адно пытанне. Што ж перашкаджае прызнаць гэтую ісціну кансерватыўным колам? Неразуменне гістарычнай сітуацыі? Сляпая вера ў сукупнасць ідэй і духоўных каштоўнасцей або ўсё-такі штосьці іншае?

Я думаю, іншае. І гэтым іншым з'яўляецца карпаратыўны інтарэс часткі партыйна-дзяржаўнага апарата. Інтарэс — вось ключ да разумення розных ацэнак таго, што адбываецца ва Усходняй Еўропе. Інтарэс адных звязаны з кансервацыяй аджыўшай мадэлі грамадскага ладу, інтарэс іншых штурхае іх да яе радыкальнай рэканструкцыі. Жыццё адных ужо наладжана ў рамках існуючага, і яны не хочуць ламаць яго і таму заклікаюць «не адыходзіць без бою». Жыццё ж іншых звязана з адданасцю дэмакратыі. Свабода выбару азначае для іх прызнанне на справе роўнасці нацый, суверэнітэту народаў, неўмяшання ў іх унутраныя справы.

Адным словам, ідзе складаная палітычная барацьба, на шчытах проціборнічаючых бакоў адно і тое ж слова — сацыялізм. Я спадзяюся, што «рэальны» ўступіць месца рэальнаму.

**Аркадзь ЛАПШЫН.**

*ПІШУЦЬ ЗЕМЛЯКІ*

## ВЫЙСЦЕ БУДЗЕ ЗНОЙДЗЕНА

Добры дзень!

Выбачайце, што доўга не пісала ў рэдакцыю. Але я па-ранейшаму сачу за ўсімі палітычнымі падзеямі, якія адбываюцца на Радзіме. Сваімі думкамі наконт гэтага і я хацела б падзяліцца на старонках «Голасу Радзімы».

У сучасны момант праўдзівая (нарэшце!) савецкая прэса адкрыла нам вочы на многае. Здрыганешся, калі прачытаеш аб злачынствах былых кіраўнікоў, скампраметаваўшых ідэі камунізму. І змены ва ўсходніх сацыялістычных краінах адбыліся менавіта таму, што людзі зняверыліся ў кампартыі. Хвалюе палітычная нестабільнасць, эканамічная разруха на Радзіме. Каб аднавіць эканоміку, неабходна, на мой погляд, закасаць рукавы ўсім без выключэння і працаваць з поўнай аддачай, а не мітынгаваць увесь час і наладжваць маніфестацыі, якімі людзей не накорміш.

Цяпер шмат дыскусій аб рыначнай эканоміцы. Я асабіста не вельмі дасведчаная ў гэтай сістэме, але лічу: калі будуць канкрэтныя гаспадары, то абыякавасць, разбазарванне, разгільдзяйства знікнуць самі па сабе. Вядома, колькі прадуктаў гіне з-за дрэннай арганізацыі сістэмы гаспадарання, а паліцы ў магазінах пустыя.

Такая дзіўная, мякка кажучы, гаспадарчая структура ў краіне, калі адно прадпрыемства ці ўстанова замінае рабоце іншага.

Але я з аптымізмам гляджу ў будучыню і спадзяюся, што савецкі народ і яго ўрад адолеюць крызіснае становішча. Шчыра жадаю маім суайчыннікам дабрабыту.

**Любоў МАГЛАВА.**
Бельгія.

## НЕ ЎСЁ ТОЕ ЗОЛАТА

Дарагія сябры!

Шчыра дзякую, што памятаеце пра мяне: газеты і часопісы, якія атрымліваю з Радзімы, мне шмат дапамагаюць. Цікава, што перабудова ўплывае на жыццё людзей і ў Злучаных Штатах Амерыкі. Сюды едуць эмігранты з розных краін. Беднякі працуюць за двух коней, атрымліваючы нейкія капейкі за цяжкую працу.

Ёсць і другі бок справы. У раён, дзе я нядаўна жыла, наехала многа імігрантаў. Зарабляюць яны, відаць, нямала. Яшчэ не валодаюць мясцовай мовай, а купляюць будынкі, аўтамабілі, пачынаюць камерцыю. Мае новыя гаспадары, даведаўшыся, што са мною можна пагутарыць па-польску, пачалі ахаць, як цяжка жывецц[illegible] на Радзіме. Я адказала, што фашысцкая нечысці[illegible] прычына шматлікіх праблем. У час вайны загінула мно[illegible]а людзей, разбурана эканоміка. А колькі ёсць інвалідаў, сляды вайны бачны і па сённяшні дзень. Але ж урад змог ліквідаваць непісьменнасць, узняў на высокі ўзровень культуру, спорт, медыцынскія паслугі — бясплатныя, чаго ў Амерыцы няма. Мае субяседнікі не палічылі пат[illegible]ым працягваць размову і моўчкі выйшлі.

Праз два тыдні гаспадар заявіў, што яму патрэбна кватэра, дзе я жыла. Затраціла многа нерваў, пакуль знайшла месца, куды перабрацца. Кватэр многа, а жыць няма дзе. Давялося браць тое, што трапілася пад руку.

Так, нам даўно вядома, што не ўсё тое золата, што блішчыць.

**Стэфаніда ТАРЛОЎСКАЯ.**

ЗША.

## У НАС НІХТО НЕ ПЫТАЎСЯ

Паважаная рэдакцыя «Голасу Радзімы»!

Прачытаў увядзенне да брашуры Яўгена Турайкевіча «Вераснёўскі світанак». Самой брашуры яшчэ не чытаў, але ўжо з увядзення відна, аб чым яна.

У сувязі з гэтым, першнаперш, мне хочацца з жалем сказаць, што 17 верасня 1939 года Заходняя Беларусь была вызвалена ад прыгнёту польскай паншчыны (як і сотні тысяч падобных мне, я не меў не то што ботаў, а нават лапцяў, каб хаця зімой не хадзіць босаму, не быў ні разу ў школе), але ўсяго толькі на 21 месяц. Пасля разгрому гітлераўскай Германіі ў 1945 годзе Беларусь зноў падзялілі і нас зрабілі «палякамі».

Літаральна ўсё стала балючым, але найгорш і па сённяшні дзень слухаць, што Чырвоная Армія ўбіла нож у спіну Польшчы, калі на яе напалі немцы ў 1939 годзе. У нас ніхто не пытаўся, дзе мы хочам жыць, а проста правялі мяжу ўпоперак беларускіх вёсак і адну іх палову зрабілі рускімі, а другую польскімі. Зараз ніхто нам не спачувае, ні польскія, ні савецкія гісторыкі і палітыкі не гавораць, што заходняя частка Беларусі апынулася ў межах Польшчы. Мы ведаем, што вялікія людзі не дбаюць пра малыя народы і дзеля суседскага спакою разрываюць іх. Але ж і нашы суайчыннікі толькі цяпер нас прызналі і перастаюць называць палякамі, ды яшчэ і ворагамі СССР.

Вядома, немагчыма ўсяго напісаць. Я, напрыклад, ніколі не пагаджуся з фактам, што мая вёска, у якой ніколі не жыў ніхто, акрамя беларусаў, знайшлася ў межах чужой дзяржавы.

Дарэчы, у гэтым годзе «Мастацкая літаратура» ў Мінску выдае маю кніжку «Пожня». У ёй расказваецца пра тое, як нам «цудоўна» жылося ў буржуазнай Польшчы, якую цяпер выцягваюць са сметніка гісторыі і ставяць помнікі Пілсудскаму і да яго падобным. А помнікі савецкім дзецям, якія не рабілі ніякае палітыкі, а клалі галовы за вызваленне ад немінучай смерці палякаў — разбураюць як помнікі сваіх ворагаў. А яшчэ гавораць, што вераць у Бога.

З глыбокай пашанай
**Васіль ПЕТРУЧУК.**
г. Беласток
Польшча.

*У БЕЛАРУСКІМ ТАВАРЫСТВЕ «РАДЗІМА»*

## ПРЫВЕЗЛІ АХВЯРАВАННІ

На працягу некалькіх дзён у пачатку ліпеня ў Беларусі знаходзіліся замежныя суайчыннікі са Злучаных Штатаў Амерыкі муж і жонка Міхаіл і Роза Сандэрсы. Айчыну сваіх бацькоў яны наведалі па запрашэнню Беларускага таварыства «Радзіма». У гэтую грамадскую арганізацыю, якая ажыццяўляе культурныя сувязі з землякамі-беларусамі замежжа, госці і былі запрошаны на сустрэчу. Трэба адзначыць, што да гэтага працэсу Сандэрсы мелі і маюць непасрэднае дачыненне: Міхаіл Міхайлавіч — член дырэктарата Араў-парку, Роза Цімафееўна — актывіст. Абое — прадстаўнікі другога пакалення «старой» эміграцыі, нарадзіліся ў ЗША. Іх бацькі пакінулі Заходнюю Беларусь яшчэ да першай сусветнай вайны. Сям'я Сандэрсаў жыве ў Нью-Йорку, яе галава — адвакат па прафесіі, Роза Цімафееўна — настаўніца.

На сустрэчы ў таварыстве госці передалі на патрэбы ліквідавання вынікаў катастрофы на ЧАЭС ахвяраванні, сабраныя нью-йоркскімі суайчыннікамі: ад імя Веры Гетман 450 аднаразовых шпрыцаў, ад свайго і Уладзіміра Варывончыка — вітаміны.

Падчас знаходжання ў БССР Міхаіл і Роза Сандэрсы наведалі гістарычныя і культурныя мясціны нашай сталіцы і сваякоў, якія жывуць у Брэсцкай вобласці.

У размове са мной містэр і місіс Сандэрсы здаліся мне вельмі тактоўнымі, дыпламатычнымі і лаканічнымі ў адносінах да той жыццёвай рэчаіснасці, якая адкрылася ім на Радзіме продкаў і з якой за апошнія гады яны мелі магчымасць неаднаразова сутыкацца, прыязджаючы сюды.

— Нам падабаецца хадзіць па вуліцах Мінска, быць сярод беларускіх людзей. Вялікага адрознення іх ад амерыканцаў, як вы пытаецеся, мы не бачым. Каб ні цыгара, напрыклад, якую ўвесь час курыць мой муж, дык мы нічым не выдзяляліся б, — пажартавала місіс Сандэрс. І дадала, што ў параўнанні з мінулымі прыездамі значна больш стала выпадкаў, калі ім ля гасцініцы нейкімі асобамі прапаноўваўся сякі-такі тавар за долары. А ўвогуле, было агульнае меркаванне Сандэрсаў: яны адчуваюць сябе ў Беларусі, як дома.

**Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**



**У Нью-Йорку створаны фонд «Дзец[illegible] [illegible]арнобыля». Яго прэзідэнтам стаў наш зямляк Валерый Шчукін. Нядаўна В. Шчукін з групай амерыканскіх бізнесменаў пабываў у Беларусі. Здымак зроблены ў час наведвання ім рэспубліканскага аддзялення Дзіцячага фонду. В. ШЧУКІН (справа) і У. ЛІПСКІ.**

## «...Я ПРЫЕХАЎ НЕ НАЖЫВАЦЦА»

Чарнобыльская трагедыя атрымала шырокі рэзананс ва ўсім свеце. Аднак за рубяжом уяўленні аб сапраўдных маштабах катастрофы часам далёкія ад ісціны.

— На жаль, рэальнасць, аб якой мне расказалі актывісты розных грамадскіх рухаў у дапамогу пацярпеўшым ад узрыву ў Чарнобылі, аказалася значна больш трагічнай, чым меркавалася здалёк,— заявіў прэзідэнт галандскай фірмы «Сканам хаўт трэйдзінг БВ» Герард Полдэрман. — Гэта ўражанне яшчэ больш узмацніла наведанне мемарыяльнага комплексу ў Хатыні. Уражвае мужнасць народа, на долю якога выпалі такія суровыя ўдары лёсу.

Кампанія, якую ўзначальвае бізнесмен, ужо каля 30 гадоў звязана з дрэваапрацоўкай у Галандыі, Германіі, Канадзе, ЗША, Бельгіі. Яе абарот — каля 100 мільёнаў заходнегерманскіх марак у год, што нямала. Зараз заходні прадпрымальнік накіраваў свае позіркі на Усход. З яго ўдзелам ужо дзейнічае сумеснае прадпрыемства ў Рызе. Там будуць выпрацоўвацца будматэрыялы для СССР і продажу за рубяжом. І Беларусь, на яго думку, магла б стаць варотамі ў сувязях паміж Заходняй Еўропай і Расіяй.

— Мяне ўразіў высокі інтэлектуальны ўзровень грамадскасці Мінска, — працягвае Герард Полдэрман. — Я сустрэў тут высокаадукаваных спецыялістаў, імпануе іх дружалюбнасць. Не разумею, чаму столькі гадоў мы былі раздзелены. Да таго ж у наяўнасці шырокія магчымасці для бізнесу, прычым не толькі ў галіне дрэваапрацоўкі. Таму я вырашыў адкрыць у Мінску свой офіс. Аднак адразу хачу заявіць, што не маю намеру нажывацца на бядзе беларускага народа.

Больш таго, супрацоўніцтва з фірмай «Сканам» можа прынесці немалую карысць пацярпеўшым ад катастрофы ў Чарнобылі. Не сакрэт, што будаўніцтва жылля для перасяленцаў з заражоных зон звязана з вялікімі праблемамі. І тут вельмі прыдаліся б дамы са зборных канструкцый, пастаўку якіх мог бы забяспечыць Герард Полдэрман, падключыўшы да гэтага шэраг заходніх фірм. Больш таго, можна было б і ў Беларусі стварыць сумеснае прадпрыемства па іх вытворчасці, максімальна выкарыстоўваючы мясцовыя матэрыялы і рабочую сілу.

Заходні прадпрымальнік прывёз рэкламныя праспекты розных пабудоў са зборных элементаў. Разам з вядомым беларускім архітэктарам Леанідам Левіным, сустрэчу з якім арганізаваў беларускі саюз імя П. Машэрава «Зніч» дапамогі ахвярам чарнобыльскай трагедыі, яны абмеркавалі план пабудовы пасёлішча на 5 тысяч чалавек. Такога, якое б задаволіла на сучасным узроўні і спажывецкія, і эстэтычныя запатрабаванні людзей і стала першым крокам у развіцці супрацоўніцтва галандскіх і беларускіх архітэктараў і будаўнікоў.

— Ніхто не можа гарантаваць, што Чарнобыль не паўторыцца ў другім канцы света, — заканчвае гутарку наш госць. — Таму мы павінны згуртавацца, каб ні зараз, ні ў будучыні ніхто не застаўся адзін на адзін з бядой. Вярнуўшыся на радзіму, я пастараюся яшчэ раз прыцягнуць да катастрофы ў Беларусі ўвагу грамадскасці.

Што ж, грэх адмаўляцца ад дапамогі. Але і спадзявацца толькі на яе нельга. Трэба аб'ядналь намаганні ўсіх людзей добрай волі незалежна ад іх філасофскіх і палітычных перакананняў. Пра свае намеры заходні бізнесмен ужо заявіў. Ці знойдзецца, у сваю чаргу, савецкі прадпрымальнік, які саставіў бы яму пару для ажыццяўлення добрай справы? Хацелася б верыць, што так. Усе прапановы на гэты конт саюз імя П. Машэрава абавязуецца пераслаць зарубежнаму адрасату.

**В. БІБІКАЎ.**



# НАДЕЖНЫЙ ПАРТНЕР



**Первая в республике ассоциация строителей — «ЧИАСС» — создана в Минской области. Поселок Чисть Молодечненского района, становится все более популярным среди сельских застройщиков, колхозов, совхозов, предприятий агропрома. Большую часть своей продукции завод крупнопанельного домостроения поставляет на объекты своей области, выручает соседей, помогает переселенцам, пострадавшим от аварии на Чернобыльской АЭС.**

**Чистинские дома можно узнать сразу. По своей конструкции они очень напоминают сельских собратьев, построенных из дерева, — такие же уютные, с двускатной крышей, крылечками, верандами. Несмотря на то, что коттеджи спроектированы в двух уровнях, они хорошо вписываются в ландшафт деревни. Лучшая реклама продукции завода — это то, что сами чистинцы живут в домах собственной конструкции.**

**Чистинская ассоциация — находка для сельских застройщиков. Тем более, что объединяет она и тех, кто строит — а это около десятка межхозяйственных передвижных механизированных колонн, среди которых Минская, Борисовская, Вилейская, Городейская, Молодечненская, Слуцкая, и тех, кто обеспечивает строителей необходимыми деталями конструкциями. Эту мисси. выполняет Чистинский завод крупнопанельного домостроения. В строю пока только первая его очередь, но не за горами и ввод второй. Имея под руками необходимые матери. лы, строителям проще орг низовать свой труд, обеспечить высокое качество работы. Это поняли и члены двух кооперативов, которые созданы при ассоциации и выполняют один — проектные, другой — монтажные работы. Увидели свою выгоду и те, для кого нужно строить: колхозы, совхозы, агропромышленные предприятия стали больше обращаться за помощью к новой, мощной организации. Они не прочь стать ее акционерами.**

**НА СНИМКАХ: коттеджи усадебного типа в поселке Чисть; детский сад в поселке.**

**Фото А. НИКОЛАЕВА.**

## НАЦИОНАЛЬНЫЙ АСПЕКТ ПЕРЕСТРОЙКИ

# БЕЛОРУССИЯ ИДЕТ К РЫНКУ

Обновленный едва ли не наполовину Совет Министров Белоруссии уже разработал комплексный план организационно - практических мер по реализации «белорусской концепции» экономического суверенитета. Он предусматривает, в частности, подготовку целого пакета законодательных и нормативных документов. Их будет не менее 50.

Как сообщил на сессии Верховного Совета БССР Председатель Совмина республики В. Кебич, правительство отвергает тот вариант перехода к рыночной экономике, который исходит из расширенного трактования полномочий Союза и идеи совместной компетенции Союза и БССР. По его мнению, это вновь привело бы к прежнему расширению прав союзных органов в ущерб суверенитету Белоруссии. Время же и ситуация диктуют иной подход к решению проблем. Республика должна обладать полной самостоятельностью в определении структуры экономики, форм и методов хозяйствования и управления, в распределении производственной продукции и дохода. Только на этой основе и должен осуществляться переход к рыночной экономике.

И первое, на что, судя по всему, намерены направить свои усилия сегодня члены белорусского правительства, — децентрализация собственности, разгосударствление экономики, налаживание поддержки предпринимательства.

По приблизительным подсчетам специалистов, не менее 50-60 крупных предприятий машиностроения и химической промышленности станут акционерными, в аренду перейдет до 25-30 процентов предприятий легкой промышленности, строительства. Что же касается торговли, сферы услуг, пищевой промышленности, то в этих отраслях будут выкуплены или преобразованы в народные до 50 процентов предприятий.

Есть конкретные, хотя, быть может, и спорные предложения у Совета Министров и по всем другим вопросам, связанным с переходом к рыночной экономике. Так, кажется, найдены пути для увеличения производства строительных материалов, столь необходимых сегодня в Белоруссии: тот же кирпич будет выпускаться в каждой области, а со временем и в каждом районе, может, даже в отдельных хозяйствах. Чтобы не зависеть от поставок хлеба из центра и тратить минимум валюты на его закупку за рубежом, планируется интенсивное развитие собственного зернового хозяйства. Товарный голод, взявший в тиски и белорусского потребителя, предполагается ликвидировать, максимально ограничив вывоз дефицитов за пределы Белоруссии: для населения республики будут введены именные чековые книжки, а если и это не поможет, то в оборот пойдут и собственные деньги.

Правительственная программа перехода к рыночной экономике, впрочем, во всех деталях пока неизвестна. Ее обсуждение, видимо, состоится на следующей, осенней, сессии Верховного Совета БССР. Но и теперь очевидно: новое белорусское правительство не намерено ни ждать помощи из центра, ни бездействовать. Оно уже делает первые шаги на пути к долгожданному экономическому суверенитету, причем, как подчеркнул в своем докладе В. Кебич, не хватаясь за все сразу, а соизмеряя желания с реальными возможностями.

**Наталья БУЛДЫК,**

## *ТОЧКА ЗРЕНИЯ УЧЕНОГО*

# СТАТУС НАЦИОНАЛЬНЫХ МЕНЬШИНСТВ

Так сколько же в нашей стране наций и народностей? Всероссийской переписью 1897 года их зарегистрировано 197. Всесоюзная перепись 1926 года уменьшила их число до 178. Эта тенденция получила свое продолжение. По всесоюзным переписям 1959, 1970 и 1979 годов в стране проживает «свыше ста» наций и народностей. Однако, как следует из недавних сообщений центральной прессы, в картотеке одного энтузиаста из Белоруссии значится около двухсот этнонимов, живущих на территории Советского Союза. Если это подтвердится научной экспертизой, значит, десятки народностей никуда не исчезли и продолжают существовать со своими проблемами и интересами.

Но может ли столь удивительная устойчивость национального самосознания сама по себе обеспечить нормальные условия для их существования и развития? Ясно, что нет.

Перестройка сделала достоянием общественности поистине катастрофическое положение немногочисленных народов Крайнего Севера, Дальнего Востока, Сибири, некоторых других регионов. Об этом немало писалось. Предполагалось, что потребность их этнического развития гарантируется союзным государством и национальной государственностью тех народов, на территории которых они проживают. Но на деле это оказалось не так.

По недавним подсчетам московских ученых А. Зубова и А. Салмина, из учтенных ими 127 народов 63 не имеют своих национально-государственных или административно-территориальных образований. Без соответствующих государственно-правовых атрибутов эти народы оказываются в положении бедных родственников (в условиях административно-командной системы управления они практически беззащитны). Однако сегодня на смену диктату союзных ведомств пробивается диктат соответствующих институтов и структур ряда союзных республик. В случае такой замены права малых по численности народов вновь окажутся без должной защиты.

Платформа КПСС «Национальная политика партии в современных условиях» дает основу для решения назревших проблем. Этот исторический шанс мы не имеем права упустить.

Некоторые аспекты уже проясняются. Это восстановление национальной государственности тех народов, которые были лишены ее в годы войны. Это и возвращение к оправдавшим себя в 20—30 годы национальным сельским Советам.

Вместе с тем необходимы более крупные и радикальные преобразован Речь идет о реализации в полной мере ленинской ко ции государственного строительства, согласно которой все народы, как большие, так и малые, имеют право на создание своей национальной государственности в той или иной форме. Одно из необходимых условий — компактность проживания.

Такие вопро уже поставлены. Польское население в некоторых рай Литвы на своих полномочных форумах потребовало со ия национальной автономии в составе Литовской ССР. В ноябре 1989 года чрезвычайный съезд гагаузского народа провозгласил образование Гагаузской автономной республики в составе Молдавской ССР. Парадоксально, но именно республиканская бюрократия оказывает этому процессу яростное сопротивление. Президиумы Верховных Советов Литвы и Молдавии объявили указанные решения незаконными.

На Украине проживает 293 тысячи молдаван — это 0,6 процента населения республики. Здесь действует 111 молдавских школ. На молдавском языке выходят газеты, ведутся радио- и телепередачи. В Молдавии, где проживает 561 тысяча украинцев — это 14,2 процента ее населения, нет ни одной украинской школы, нет украинских газет, передач по радио, телевидению.

Проблема национальных меньшинств не надумана. Необходима разработка статуса национальных меньшинств. В качестве идейно-теоретической и юридической основы для разработки законов, гарантирующих права национальных меньшинств, следует положить «Проект закона о равноправии наций и о защите прав национальных меньшинств», написанный Лениным в мае 1914 года для внесения большевистской фракцией в IV Государственную думу. Он придавал этому документу большое значение, однако внести проект не удалось. Началась первая мировая война, большевистская фракция была арестована.

Впервые этот документ был опубликован в 1937 году в XXX ленинском сборнике. Тогда заложенные в нем идеи не могли быть реализованы. Сегодня настало время вернуться к ним. Первый такой шаг сделан в проекте закона о свободном национальном развитии граждан, проживающих за пределами своих национально-государственных образований или не имеющих их на территории СССР. Однако должны последовать и другие решения.

В общественном сознании пока еще нет достаточно четкого понимания того, что создание национальной государственности изменило статус многих национальных меньшинств дореволюционной России. В то же время представители русской нации, проживающие за пределами Российской Федерации, превратились в национальное меньшинство на территории национальных союзных республик. Национальным меньшинством на территории республик стали и представители всех других национальностей, в том числе те, кто имеет свою государственность в рамках Союза. Эта принципиально новая ситуация в ряде случаев создает предпосылки для превращения национального экстремизма в местный шовинизм, ведет к ущемлению гражданских, национальных, профессиональных и иных прав национальных меньшинств, что совершенно не вяжется с общепринятым понятием о равноправии.

Сегодня пора отрешиться от представления, что шовинизм присущ лишь представителям бывшей великодержавной нации. К сожалению, диалектика такова, что помимо шовинистических проявлений, встречающихся среди русского населения, мы сталкиваемся в настоящее время с национализмом, перерастающим в местный шовинизм.

**Анатолий ЛИСЕЦКИЙ,**

відкі! Душылі падаткамі, ганьбілі мову, нават не прызнавалі нашай народнасці, быццам ідэі дэмакрацыі і вольнасці людзям зусім не кранулі іх сэрцаў і розумаў, у існаваньні якіх я сумнявалася нават... Побач з беларускай галечай высокія зарплаты найніжэйшыхураднікаў і страх іх з нашага існаваньня.

Муж вельмі ласкавы, стараецца мяне пазнаёміць з бел. літаратурай, якой амаль ня знаю. Ведаю М. Танка і вельмі захапляюся яго творчасьцю, гэта на ўзроўні, гэта тое, што трэба. Муж мне чытае Купалу, расказвае аб сабе, як, скончыўшы расейскую гімназію ў Горадні, не мог паступіць на польскі ўнівэрс. Гімн. ня мела дзяржаўных правоў. У Ліцьве, у Коўне, спыніўся Урад БНР у дваццатых гадох, які пасьля запрасілі да сябе Чэхі, адначасова прызначыўшы беларусам, як і інш. славянам, дзяржаўныя стыпендыі для студэнтаў. Беларусы высылалі нелегальна сваіх сыноў, пераважна абсальвэнтаў бел. гімназіі на навуку ў Прагу.

Дзеячы благаслаўлялі моладзь на навуку і бралі ад кожнага забавязаньне, што, атрымаўшы асьвету, кожны беларус выдасьць кніжку на роднай мове па сьпецыяльнасьці і дасьць за свой кошт вышэйшую асьвету аднаму сваяму суайчыньніку. Не было інтэлігенцыі, якую належала тварыць. Падпісаў гэта і муж. На дарогу благаславіў яго Браніслаў Тарашкевіч, а старэнькі Грыневіч толькі ва ўсіх пытаўся, якія ведаюць песьні народныя, каб засьпявалі.

Пасля з'езду, які быў склікаыы ў Бэрліне, дзе заклікаліся ўсе беларусы, каб вяртацца і будаваць т. зв. «Народны свой дом», як тады казалі, цэнтр БНР не прыняў прапановаў Цішкі Гартнага (Жылуновіча) і не ліквідаваў БНР. На Бацькаўшчыну яны не вярнуліся і захавалі чэсна, хоць самыя былі ў цяжкіх матэр'яльных варунках, ідэю незалежнасьці Беларусі. Цвікевіч, Заяц і Пракулевіч вярнуліся ў БССР, але хутка іх там зьліквідавалі фізічна.

У Чэхах я адразу адчула вельмі нямілую зьяву — там выразна не любілі т. зв. чужынцаў. Іх было ў Празе многа, ад яўрэяў пачынаючы. У Чэхаславаччыне была сапраўдная дэмакратыя, свабода, там кожны мог вучыцца і жыць. Праўда, працаваць не ўсім дазвалялася, бо было шмат сваіх беспрацоўных, і так мой муж працаваў, сказаць, нелегальна за маленькія грошы. Ён замяшчаў лекара — спецыяліста скурна-венералагічных хваробаў, чэскага легіянера палкоўніка Віцеслава Градзіла, які працаваў сам на чэскім Градзе (Крамлі), а муж усёй час вёў ягоны кабінет. Градзілу падабалася чэснасьць і працавітасьць беларуса, а муж меў там харошую і цікавую практыку і мінімум для нашага пражыцця.

На гару да нас пачалі заходзіць дзіўныя тыпы, яны проста выразна пыталіся аб нашым настроі, лаяльнасьці. Што ж, мы без грамадзянства і ня просім ніякага, а нямецкае нам напэўна далі б... Сьмешна. У Ермачэнкі быў свой ад'ютант, нейкі Аўчыньнікаў, казалі, што некалі Ермачэнка быў за цара ў яго ад'ютантам, а цяпер зьмяніліся ролі. За ўлады БНР Ермачэнка быў консулам бел. у Канстантынопалі і выдатна разбагацеў там, прадаючы бел. візы эмігрантам, якія ратаваліся ўцёкамі за граніцу. Вось гэты ад'ютант, які ні слова не ўмеў па-беларуску, а выступаў як прадстаўнік нашай нацыі, назаўтра пасьля нападу нямецкага на СССР пачаў аб'язджаць нас усіх і тэрмінова нас склікаць у Камітэт!

...Ермачэнка зачытаў тэлеграму Гітлеру ад нашага Камітэту. Мы пачалі пратэставаць, што Камітэт самапомачы — арганізацыя апалітычная. Ня мае права даваць такіх тэлеграмаў. Ага, перад гэтым прыйшоў муж, які на дадатковы тэлефон Ермачэнкі сьпяшаўся сюды з працы. Яму ня далі яшчэ ні сесьці, ні апомніцца, як ужо «выбралі» яго старшынёю сходу і Ермачэнка пачаў чытаць тэлеграму. Я нічога яшчэ ў гэтым не разумела, а муж зьбялеў — ён бачыў подлы і хітры «ход» Ермачэнкаў... Тэлеграму акрэсьліў Ермачэнка як ад «беларусаў у Празе» ці нейк гэтак. Напісалі пратакол сходу, але ніводзін з нас не падпісаў яго! Не падпісалі гэтага сьведама.

А кніжак у нас наогул прыбывала, не было толькі ніколі грошай. Кормячы ўсялякіх уцекачоў, сяброў і не сяброў, я толькі думала: «Божа, я ўсё аддам, што маю лішняе, галодным і патрабуючым, толькі дай так, каб маёй змерзлай, галоднай маме даў нехта кусочак хлеба ці місачку цёплае стравы там, у гэтай Богам забытай зямлі». Мы наогул лічылі з мужам, што галоўнае толькі тое, каб людзі перажылі страшную вайну, а пасьля і ў нас будуць грошы.

## ПРАЦЯГЛАСЦЬ

**На роднай зямельцы усе мы не госці,**
**Усе мы чыесьці, усе мы кагосьці.**
**Хоць спарахнелі дзядоў нашых косці,**
**У нашай натуры ёсць іхняе штосьці.**
**У падняволлі ад пыхі адсталасць,**
**На вузкіх загонах народу трываласць.**
**Жаночая гожасць, мужчынская сталасць,**
**Лагоднасць з сябрамі і з ворагам ярасць.**

**У цягліцах сіла, а ў сэрцы каханне.**
**У працы і ў песні без стомы, хістання.**
**Роднаму вернасць, да гнёздаў вяртанне,**
**З тугою бязмернай, усе крыху сяляне.**
**Усе з баразёнкі, ад нівы, ад плуга**
**Йдзем часам асфальтам, як полем ці лугам,**
**Калі непасільна бывае і туга,**
**Мы к ворагу грозна, а з сэрцам да друга.**

## *ЖЫЦЦЁ І ЛЁС СПЕВАКА МІКАЛАЯ ВОРВУЛЕВА*

# НЯЗГАСНАЯ ПЕСНЯ

Ён вучыўся на апошнім курсе чыгуначнага тэхнікума. На канікулах прыняў удзел у абласным аглядзе мастацкай самадзейнасці. Перамог ва ўсіх турах і трапіў на заключны канцэрт. Атрымаў першую ўзнагароду— Ганаровую грамату і залаты гадзіннік. Нехта з членаў журы параіў яму паспрабаваць паступіць у кансерваторыю.

З Кіеўскай кансерваторыі чакаў ён выкліку з бязмерным хваляваннем. Прынялі нарэшце ледзь не апошняга, у канцы рабочага дня. Экзаменатары стаміліся і не былі ўжо ўважлівыя. Мікалай наблізіўся да стала і паказаў узнагароды. Сярдзітая жанчына зірнула на яго з-пад ілба і, не вымаючы цыгарэты, з'едліва працадзіла:

— Вы памыляецеся, малады чалавек: сюды патрэбна не Ганаровая грамата, а музычная... Ці чытаеце вы ноты?!.

— Не! — спалохана выціснуў з сябе юнак.

— Як — не?..—здзівілася жанчына.—А калі не, дык ідзіце і паклічце сюды наступнага!

Ворвулеў збялеў, як палатно.

Нехта з членаў камісіі злітаваўся і прапанаваў яму праспяваць што-небудзь—на свой выбар... Амаль не валодаючы сабою, ён запеў нешта невыразнае. Скончыў і зноў убачыў з'едлівыя вочы.

— Ну што ж, тэнар, слабенькі... Не для нас!

Перажываў няўдачу балюча. Стаў пануры, маўклівы і нейкі адчужаны. Прыгадваў поспех у самадзейнасці і крыху падбадзёрваўся. Гадзінамі сядзеў у бібліятэцы. Чытаў біяграфіі славутых спевакоў. Дужа ўсхваляваўся, калі даведаўся, што былі такія, што таксама правальваліся спачатку, але не здаваліся і нарэшце дасягалі жаданай мэты. Павесялелы, тайком ад блізкіх напісаў заяву ў Арцёмаўскі музычны тэхнікум. Адтуль атрымаў выклік. На экзамене адчуў увагу і добразычлівасць. Не строга і нават ласкава папрасілі яго праспяваць тое, што найбольш падабаецца самому. Нeяк адразу стала лягчэй на душы, знікла напружанне. Голас загучаў свабодна і натуральна, як дома.

Яго прынялі ў тэхнікум хлопец быў, як кажуць, . сёмым небе ад радасці. Пашанцавала і ў тым, што быў залічаны ў клас выдатнага педагога В. Карына-Вішкарова, у далейшым прафесара Маскоўскай кансерваторыі.

Пачуўшы голас Міка. Ворвулева, Карын-Вішкароў адразу здзівіў яго:

— Хто табе сказаў, мой голуб, што ў цябе тэнар? Не, не і не! Самы сапраўдны барытон індывідуальнага, вельмі прыгожага тэмбру. Вось і будзем развіваць яго.

Пачаліся нялёгкія, але вельмі карысныя заняткі. Вучань прывязаўся душою да настаўніка. Толькі шчасце было нядоўгае, ім давялося расстацца. Запрошаны на сталую працу ў Беларускую дзяржаўную кансерваторыю, Карын-Вішкароў паехаў у Мінск. Педагог, які замяніў яго ў Арцёмаўскім тэхнікуме, вызначыў у Мікалая Ворвулева бас і праз кароткі час заняткаў «пасадзіў» яму голас. Пра гэта дачуўся Карын. Занепакоены лёсам свайго нядаўняга вучня, Карын піша яму ліст, кліча ў Мінск, каб прадоўжыць заняткі і падрыхтаваць яго да паступлення ў кансерваторыю.

І вучань з'явіўся на ратавальны выклік настаўніка. Пад пільным наглядам Карына ўзнавілася праца над умацаваннем барытона. Займаліся настойліва і цярпліва. Не адразу ўдалося дамагчыся чысціні гучання, вярнуць голасу натуральнасць, пашырыць дыяпазон, моц і харaство.

Калі яны музіцыравалі, у пакой непрыкметна ўваходзіла Н. Паніна, былая салістка опернага тэатра імя С. М. Кірава ў Ленінградзе. Стаіўшыся ў кутку, яна ўважліва слухала. Хутка не толькі згадзілася з думкаю Карына пра вакальныя здольнасці Мікалая Ворвулева, але і сказала, што адчувае ў ім яшчэ не разгорнуты вельмі вялікі талент. Даведаўшыся аб правале ў Кіеве, яна хвалявалася за лёс Ворвулева ў



Мінску. Як ні кажы, экзаменуемы на рэдкасць ранімы: нечакана можа разгубіцца і ў адказны момант не пераадолець нервовай скаванасці. Паніна мела шматгадовы вопыт, ведала і добра помніла, што так здаралася з іншымі і нават менавіта з ёю. А таму глыбока спачувала вучню свайго калегі.

Надышоў чаканы дзень. У цэнтры класа, за масіўным раялем, застыў у чаканні акампаніятар. Крыху ўбаку садзяцца выкладчыкі і асістэнты. А за сталом на ўзвышэнні займае месцы прыёмная камісія. Настае цішыня. Строгая, дзелавая. Усё гатова для выбару абітурыентаў.

Чакаючы выкліку, Мікалай хвалюецца, здаецца, быў ужо сабраны, упэўнены, а як толькі пераступіў парог кансерваторыі, разгубіўся.

Паклікалі. Увайшоў. Раптам пацямнела ў вачах. Успомніліся кіеўскія пакуты. Падышоў да раяля, стаіць здранцвелы. Карын намагаецца падбадзёрыць яго, але дарэмна.

Абвешчана пачатковая арыя Дэмана. Акампаніятар іграе ўступ. Гучыць апошні акорд. Выканаўца маўчыць, як у рот вады набраўшы, а потым цяжка ўздыхае і пераступае з нагі на нагу.

Н. Паніна хвалюецца, не знаходзячы спосабу, каб памагчы анямеламу ад разгубленасці хлопцу. Зноў гучыць акорд. Ён пачынае своечасова, але вяла і нібыта не сваім голасам. Гэты факт са слоў Ворвулева апісала рэжысёр І. Моластава:

«У яго было адзінае жаданне—схавацца ад гэтых шматлікіх, патрабавальных, суровых вачэй».

**Всё, что перед собой**
**я вижу,**
**Я проклинаю,**
**ненавижу..—**

Гэтую фразу Ворвулеў прымусіў сябе дапець велізарным намаганнем волі. І раптам аднекуль з залы прагучала:

**Не кляни, а люби,**
**и простит тебя тот,**
**В ком любви нет конца,**
**И опять для тебя**
**Он свой рай отопрёт...**

Сівая невысокая жанчына адказала яму наступнымі за арыяй словамі анёла. Гэта была Н. Паніна. Кіўком галавы прапанавала Ворвулеву разам прадоўжыць сцэну. Выкананы экспромтам дуэт вырашыў лёс артыста. Ён быў залічаны на падрыхтоўчае аддзяленне Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі.

Вучыўся ён з сялянскай стараннасцю, але вельмі жадаў апярэдзіць час. У марах бачыў сябе ўжо выпускніком і прызнаным салістам, а ішоў на заняткі і трывожыўся ад усведамлення, што давядзецца доўгія чатыры гады адольваць навуку, выконваць нялёгкія практыкаванні і толькі тады стане відаць, што атрымалася. Не думаў і не мог прадбачыць, што давядзецца чакаць яму пятнаццаць гадоў таго шчаслівага дня, калі атрымае дыплом аб скканчэнні кансерваторыі.

—ФАШЫСТЫ бамбілі Мінск у першы дзень вайны. Чорныя згусткі дыму, нібы нейкія велізарныя змеі, паўзлі ў неба, у бяздонную яго сінь. Апрытомнеўшы ад раптоўнага нападу, жыхары намерваліся аставацца на месцы і толькі тады, калі ўзнікла пагроза немінучага акружэння, паспешна рынуліся на ўсход.

У кансерваторыі справу неадкладнай эвакуацыі меркавалі паскорыць так: усе старэйшыя сядуць у грузавік, а моладзь рушыць пехатой.

Аляксей СЛЕСАРЭНКА.

**НА ЗДЫМКУ: М. ВОРВУЛЕЎ у ролі Апанаса ў оперы Я. Цікоцкага «Дзяўчына з Палесся».**

Працяг. Пачатак у № 35.

# ШТО НОВАГА Ў КНІГАЛЮБАЎ

Сёння многія нашы суайчыннікі праяўляюць самы жывы інтарэс да таго, што новага адбываецца ў нас у культурным жыцці. У тым ліку і ў жыцці грамадскіх арганізацый, якой з'яўляецца, у прыватнасці, таварыства «Кніга» ў БССР, якое аб'ядноўвае сапраўдных аматараў, збіральнікаў, цаніцеляў кнігі.

Таварыства заўсёды было ў пошуку цікавых форм прапаганды кнігі. Прыярытэтным напрамкам заўсёды лічылася дзейнасць клубаў кнігалюбаў. У рэспубліцы больш за 800 такіх клубаў.

У Мінску заслужанай папулярнасцю карыстаецца літаратурна-музычная гасціная ў бібліятэцы Я. Купалы. Вялікі кнігалюб Соф'я Берына з любоўю, тактам, густам арганізоўвае літаратурныя сустрэчы ў бібліятэцы, дзе яна працуе.

Адданыя сваім захапленню калекцыянеры экслібрыса і мініяцюрных кніг. Яны аб'яднаны ў рэспубліканскія клубы, якія функцыяніруюць ужо больш дзесяці гадоў. Члены клубаў не толькі збіраюць свае калекцыі, але і наладжваюць выстаўкі, сустрэчы. Цяпер гэтыя клубы рыхтуюць экспазіцыі для паказу на Выстаўцы дасягненняў народнай гаспадаркі БССР.

Старшыня клуба экслібрысістаў, вядомы беларускі графік Генадзь Грак афармляе мініяцюрны зборнік вершаў Максіма Багдановіча, які выдае сёлета рэспубліканскае праўленне таварыства «Кніга». Зборнік можа зацікавіць многіх калекцыянераў і аматараў беларускай паэзіі і не толькі ў нашай краіне. Таварыства «Кніга» гатова задаволіць гэты інтарэс.

Выдавецкая дзейнасць нашага праўлення, правы на якую атрыманы зусім нядаўна, не абмяжоўваецца выпускам толькі зборніка Багдановіча. Мы маем намер выдаць серыю зборнікаў вершаў беларускіх паэтаў.

Сумесна з Беларускім аддзяленнем дзіцячага фонда імя У. І. Леніна мяркуем выдаць цікавую, добра ілюстраваную дзіцячую кнігу.

Планы ў нас вялікія, ідэй дастаткова, аднак у іх ажыццяўленні мы сутыкаемся з вялікімі цяжкасцямі. Гэта і недахоп паперы, і малыя паліграфічныя магутнасці.

Яшчэ некалькі слоў аб нашай дабрачыннай дзейнасці.

Кнігалюбы рэспублікі не першы год займаюцца камплектаваннем бібліятэчак з асабістых кніжных збораў. Перадаюць іх у дзіцячыя дамы, школы-інтэрнаты, воінам Савецкай Арміі, па іншых падшэфных адрасах.

Акрамя таго, абласныя і рэспубліканскія праўленні пералічылі пэўныя сумы грошай літаратурным музеям, у дзіцячы і Чарнобыльскі фонды, у фонд славянскай пісьменнасці.

Адна з апошніх дабрачынных акцый гэтага года — пералічэнне 15 тысяч рублёў выдавецтву Беларуская Савецкая Энцыклапедыя на выданне факсімільнай Скарынінскай Бібліятэкі.

Таварыства «Кніга» зацікаўлена ў наладжванні сувязей з замежнымі калегамі, літаратурнымі аб'яднаннямі, калекцыянерамі экслібрыса, мінікнігі.

Няхай жа магчымыя кантакты паслужаць высакароднай кніжнай справе, узаемаўзбагачэнню культур нашых народаў.

**Л. СМОЛІЧ,**
**рэферэнт рэспубліканскага праўлення таварыства «Кніга».**

# ЯБЛЫКІ І ПЕСНІ





**Зноў на Белай дачы адбылося свята, на гэты раз маляўнічае «Жніво». На паляне сабралася многа людзей. Апоўдні свяшчэннаслужыцелі Мінскага Кафедральнага сабора айцец Георгій і Васіль з ухвалення мітрапаліта Філарэта расказалі прысутным аб царкоўным свяце — яблычным Спасе, якое супала сёлета са святам жніва, асвяцілі яблыкі, раздалі тым, хто быў на свяце. І загучала музыка. Адзін за другім сваё майстэрства паказвалі прыехаўшыя з Іванаўскага раёна Брэсцкай і Жыткавіцкага раёна Гомельскай абласцей фальклорныя калектывы.**

**Загадчык аддзела Рэспубліканскага навукова-метадычнага цэнтра культуры Альберт Радзівілаў расказаў, што на Белай дачы і надалей будзе праводзіцца цыкл фальклорных каляндарных абрадавых свят: зімнія каляды, гуканне вясны, самае любімае свята — Купалле і іншыя.**



**НА ЗДЫМКАХ.**

**● Выступаюць фальклорныя калектывы «Стважанка» і «Лянок» з Гомельшчыны.**

**● Прынялі ўдзел у свяце духоўныя асобы — свяшчэннаслужыцелі Мінскага Кафедральнага сабора.**

Фота **М. МІНКОВІЧА.**

## *СПОРТ*



**У Мінску прайшоў дзесяцідзённы лёгкаатлетычны прабег «Спадчына», прысвечаны 500-годдзю Францыска Скарыны. У ім удзельнічалі члены беларускага спартыўна-патрыятычнага звышмарафона «Радзіма».**

**Тысячакіламетровы маршрут прабегу прайшоў праз Заслаўе, Дзяржынск, Стоўбцы, Нясвіж, Мір, Навагрудак, Ліду, Вільнюс, Ашмяны, Смаргонь, Маладзечна, Мядзель, Глыбокае, Полацк, Лепель, Лагойск. Разам з лёгкаатлетамі ў дарогу накіраваліся і прадстаўнікі беларускага мастацтва. Там, дзе звышмарафонцы спыняліся на адпачынак, адбываліся канцэрты для мясцовых жыхароў.**

# ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

**Фёдар ЧАПЕРУК** шукае ў ЗША свайго дзядзьку, **ЧАПЕРУКА Аляксея Аляксандравіча,** яго сыноў, а таксама яго стрыечнага брата — **Альберта КАНАНОВІЧА.**

У 1914 годзе **Аляксандр Антонавіч** і **Антаніна Адамаўна ЧАПЕРУКІ** выехалі з вёскі Вікшняны былога Іўеўскага ці Навагрудскага паветаў у Злучаныя Штаты Амерыкі, пакінуўшы шасцігадовага сына **Іосіфа** на выхаванне сваякам. Вядома, што жылі Чаперукі ў Нью-Йорку. Да пачатку 60-х гадоў з імі вялася перапіска. Іх шукае сын **Іосіфа Аляксандравіча ЧАПЕРУКА.**

Усіх, хто можа дапамагчы ў пошуках, просім пісаць у рэдакцыю ці на адрас:

**220109, БССР, г. Мінск,**
**пас. Сосны, д. 9, кв. 11,**
**ЧАПЕРУКУ Фёдару Іосіфавічу.**

**КРУКОЎСКАЯ Марыя Адамаўна** шукае сваякоў у ЗША.

Прыблізна ў 1911—1912 гадах яе цётка, **КРУКОЎСКАЯ Паліна Сільвестраўна** (сястра бацькі, **КРУКОЎСКАГА Сцяпана**), разам з мужам **Іванам АПРАНІЧАМ** выехала з вёскі Кулікоўка Стаўбцоўскага раёна ў Злучаныя Штаты Амерыкі.

Да 1939 года з імі вялася перапіска. У 1932 годзе яны даслалі вясельную фатаграфію сваёй старэйшай дачкі Марыі.

Просім усіх, хто можа дапамагчы ў пошуках, пісаць у рэдакцыю або на адрас:

**222660, БССР, Мінская вобласць, г. Стоўбцы, вул. Свярдлова, д. 28. КРУКОЎСКАЙ Марыі Адамаўне.**

**НА ЗДЫМКУ: у першым радзе ў цэнтры Марыя АПРАНІЧ, у другім радзе злева Паліна КРУКОЎСКАЯ і сын, справа Іван АПРАНІЧ і другі сын.**



**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ**

## НАШ АДРАС:

**220600, МІНСК, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Індэкс 63854. Зак. № 1162